Цана асобнага нумару 10 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 6 (57). Вільня, Серада 19 студня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Вольная, Незалежная, Злучаная Беларусь!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

# Масовыя арышты.

## Арышты паслоу. Зламаньне канстытуцыі.

**У начы з пятніцы на суботу, 14—15 студня с. г. на ўсіх абшарах Заходняе Беларусі польскія ўлады правялі арышты павадыроў Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады і асоб вінавачаных у камунізме.**

**У самай Віленшчыне зроблена шмат рэвізыяў і арыштавана каля 200 асоб.**

**Між іншым паліцыя арыштавала паслоў: Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага і Валошына.**

**Апрача Віленскага ваяводства рэвізіі і арышты адбыліся у Навагрудзкім, Палескім, Беластоцкім і іншых ваяводствах.**

### Арышты ў Вільні і паветах Зах. Беларусі.

У Вільні арыштавана 11 сяброў і супрацоўнікаў цэнтральнага сэкрэтарыяту Грамады; у Бельскім пав. 22 асобы; Сакольскім —5; Ваўкавыску—3; Горадні—12; Беластоку—5; Берасьцейскім—6; Дзісненскім—6; Навагрудзкім—10; Слонімскім—11.

### Рэвізія ў цэнтральным сэкрэтарыяце.

А гадзіне 3 у начы паліцыя ўвайшла ў кватэру цэнтральнага сэкрэтарыяту, арыштоўваючы на месцы прысутных супрацоўнікаў і сяброў Грамады. Правяла рэвізію дакумэнтаў і забрала іх як матэр'ял для абвінавачаньня. Па сканфіскаваньню ўсялякіх дакумэнтаў паліцыя апячатала кватэру Грамады.

### Арышты сяброў Грамады і інш.

Адначасна адбывалася рэвізыя ў паслоў і беларускіх дзеячоў Грамады. Рэвізыя адбылася таксама ў Беларускім Банку. Паслоў арыштавалі пры такіх абставінах: пас. Тарашкевіча паліцыя знайшла ў Каленіі (пад Вільняй) у доме Астроўскага. Пры арышце, як пішуць польскія газэты, у Тарашкевіча знайдзена вялікая сума ў далярах і інструкцыю, як тварыць арганізацыі камуністычнай партыі. Пас. Валошына арыштавалі ў кватэры, а п. Рак-Міхайлоўскага на вакзале, у часе калі меўся садзіцца на цягнік. Сярод дзеячаў Грамады ў Вільні арыштавалі: гр. Астроўскага, Каўша, Шнаркевіча, Назарука, Мэнке, Марцінчыка, Наваkоўскага і Бурсэвіча М., апрача таго Алейнічука з ляв. ППС, Вагнэра і Краўца, вінавачаных у прыналежнасьці да камуністычнай партыі З. Беларусі.

### Рэвізыя ў Беларускім Банку.

Адначасна дэлегат Міністэрства Скарбу пры помачы паліцыі зрабіў рэвізыю ў Беларускім Коопэратыўным Банку.

### Рэвізыя ў прафэсыянальных саюзах.

Апрача таго адбылася рэвізыя ў гэтакіх прафэсыянальных саюзах: мэталёвым, будаўляным, табачным і скурным.

## Тэлеграма пасла Ярэміча.

### ПРАТЭСТ.

**Як толькі стала ведама аб арышце паслоў, Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, пасол Ф. Ярэміч выслаў Маршалку Сойму тэлеграму такога зьместу:**

**„У начы 14—15 студзеня арыштавалі і пасадзілі ў вастрог на Лукішках паслоў: Валошына, Тарашкевіча і Рак-Міхайлоўскага.**

**Ад імя Беларускага Клюбу горача пратэстую і ветліва прашу Пана Маршалка аб інтэрвэнцыі з мэтай звальненьня паслоў, арыштаваных бяз выданьня Сойму.**

**ЯРЭМІЧ**
Старшыня Беларускага Клюбу.

## Інтэрвэнцыя

### пасл. Ярэміча і сэн. Багдановіча.

У сувязі з масовымі арыштамі ў Заходняй Беларусі пасол Ф. Ярэміч і сэнатар В. Багдановіч дня 17 студзеня рабілі інтэрвэнцыю ў Віленскіх уладаў.

## Тэлеграмы у Бел. Пасольскі Клюб.

У Беларускі Пасольскі Клюб надыходзяць тэлеграмы аб арыштах у Заходняй Беларусі. Родныя арыштаваных дамагаюцца інтэрвэнцыі ў цэнтральных уладаў.

## Ліквідацыя Грамады.

### Урадавае паведамленьне.

У сувязі са зробленым арыштаваньнем 3-х паслоў і іншых, урад выдаў наступнае паведамленьне: Вядомыя арганізацыі, якія працуюць ужо доўгі час на абшары Польскай Дзяржавы, выяўляюць работу, на якую выдаткі зусім відавочна пераходзяць магчымасьць пакрываць з уласных даходаў тых арганізацыяў. Гойнае аплачаваньне інструктараў, агітатараў, агентаў; выдаваньне цэлага сьцягу брашураў, адозваў і лістоў дарма рассыланых, урэшце перакідаваньне вялізарнымі грашовымі сумамі, дзеленымі ў форме беззваротных пазык з мэтай зьядананьня сабе прыхільнікаў сьведчыць бяссумлеву аб тым, што работу гэтых арганізацыяў аплачываюць чужыя дзейнікі.

На чале гэтых арганізацыяў сталі некаторыя пасды ў Сойм, якія тымі грашмі, паходзячымі з чужых крыніц, шырокай жменяй распараджаліся.

Урад такой работы, скіраванай на шкоду Польскай Дзяржавы і роўнай здрадзе стану, ня можа далей таляраваць (зносіць). Ня можа ён і ня хоча дапушчаць да пашырэньня сярод супакойнай людпасьці замуту і бяскарнага тварэньня прастутных плянаў выкліку, з падвучаньня і па загаду чужых дзейнікаў, якіх-небудзь забурэньняў у Дзяржаве. Дзеля гэтага засталіся арыштаванымі пасды: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і агітатары, якія стаялі на чале арганізацыяў аплачваных з чужых грошаў. Перасьцерагаецца, што прыналежнасьць да гэтых арганізацыяў, на чале якіх стаялі арыштаваныя пасды, будзе прасьледавацца са ўсей строгасьцю' як за работу на шкоду Дзяржавы.

Вільня, 15 студня 1927 г.

### Ліст Маршалка Сойму Ратая.

Судовыя ўлады паведамілі маршалка Сойму аб арыштаваньні паслоў.

Маршалак у папалудняных гадзінах выслаў да міністра справядлівасьці наступны ліст: «Даведаўся я прыватна, што сягоньня ў ночы былі арыштаваныя ў Вільні па загаду тамашняга пракурора пасды: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і Валошын. Прашу пана міністра аб паведамленьню мяне, ці гэтае вестка згаджаецца з праўдай, а калі так, дык на якой падставе і з якіх повадаў зроблена арышты?»

Да 10-ай гадз. 15-га студня мін. Мэйштовіч не пасылаў яшчэ адказу м. Ратаю.

Як ведома арт. 21 конституцыі, ст. 4 гучыць як наступае:

У прыпадку залучаньня пасла на гарачай справе праступства, калі-б яго затрыманьне неабходным было дзеля забесьпячэньня меры справядлівасьці, ці дзеля перашкоды наступстваў праступку, судовыя ўлады маюць абавязак, беспярэчна заведаміць аб тым маршалка Сойму дзеля атрыманьня пазваленьня Сойму на арыштаваньне і карнае сьледства. На жаданьне маршалка прытрыманы мусіць быць звольнены.

### Паясьненьне міністра Мэйштовіча.

15 г. студня каля гадз. 19 мін. 30 па палудні да маршалка Сойму прыбыў міністар справядлівасьці Мэйштовіч і даючы вусныя інфармацыі (паясьненьня) ў сувязі з лістом маршалка падаў на рукі апошняга гэткае пісьмо:

«У вадказ на пісьмо з 15 г. студня маю гонар паведаміць маршалка, што, паводле тэлефонічнай справаздачы, па загаду падпракурора пры Апэляцыйным Судзе ў Вільні, у сягоньняшнім дню былі затрыманы паслы Сойму Тарашкевіч Браніслаў, Валошын Паўлюк і Рак-Міхайлоўскі Сымон на факце выконваньня праступнай работы, скіраванай проці бясьпечнасьці і цэласьці дзяржавы, а ўправлянай і ведзенай праз чужыя дзейнікі за грошы, што ішлі з-заграніцы. Прытрыманьне гэтае было неабходным дзеля забясьпечэньня меры справядлівасьці, а таксама каб пашкодзіць наступствам праступку. Прапазыцыі аб выдачы праз Сойм судом вышэй названых паслоў з шырокімі матывамі буду мець гонар пераслаць маршалку ў найбліжэйшым часе. У часіне атрыманьня ліста маршалка, прыступіў я да перадачы ў яго рукі паведамленьня, якога вымагае арт. 21 канстытуцыйнай уставы.

Падпісаў Мэйштовіч
Міністар Справядл.

### Арышт пасла Мятлы. Тэлеграма п. Ярэміча і сэн. Багдановіча.

У панядзелак 17 студня на ст. Глыбокае паліцыя заарыштавала пасла Мятлу.

Старшыня Беларускага Пасольскага п. Ярэміч і сэн. Багдановіч выслалі ў гэтай справе тэлеграму да Маршалка Сойму такога зьместу:

„Учора ў цягніку на станцыі Глыбокае арыштавалі п. Мятлу. Просім аб інтэрвэнцыі і жадаем неадкладнага звальненьня“.

Пасол *Ярэміч.* Сэн. *Багдановіч.*

## „Сперва успокоеніе“...

Перад намі жудасны абраз! Польскі ўрад рашуча выступіў проці беларускае партыі, арыштоўваючы яе галоўных павадыроў і аддаючы іх пад суд!

Алярмы аб акцыі „Грамады“ ўжо некалькі месяцаў непакоілі Палякаў.

Узрост беларускай сьвядомасьці і беларускага руху стаў страшным і для ўраду. Урад шукаў спосабаў рэагаваньня на магутнасьць беларускае ідэі.

Усе польскія ўрады ўвесь час шукалі прычын, каб узяцца за Беларусаў. Дэфэнзыва працавала гадамі і знайшла выхад. Першай мэтай яе працы было: разьбіць адзіны беларускі нацыянальны фронт. Разьдзел Бел. Пасольск. Клюбу быў вынікам гэтае працы. Павадыры „Грамады“ былі ўвесь час пад уплывам правакатараў. Гэтыя павадыры з аднаго боку выракліся незалежнасьці і пачалі чарніць у сваей прэсе незалежніцкія беларускія партыі, з другога—ішлі на працу правакацыйную.

Як польскай, так і маскоўскай дэфэнзыве патрэбна разьбіваць беларускі нацыянальны рух. Апошнія нячуваныя ў цывілізаваным сьвеце арышты ёсьць доказам, што дэфэнзыва пажала добры ўраджай.

Калі-б гэта была ня праўда, то тады-б разам з арыштам павадыроў Грамады былі-б арыштаваны павадыры іншых польскіх партыяў, якія ішлі разам з Грамадой і павадыр адной, быць можа, і кіраваў усей акцыяй Грамады. Вось гэты факт відавочна гавора аб тым, чаму польскія ўлады пазвалялі арганізавацца „Грамадзе“.

Але як выглядае перад усім сьветам польскі ўрад? Ці-ж можна садзіць у вастрог сяброў партыі, якая дагэтуль была легальная? Дзе-ж конституцыя, дзе-ж пасольская незачэпнасьць (нетыкальнасьць)? Дзе-ж рэалізацыя польскіх лёзунгаў аб вольнасьці? Дзе-ж правы для Беларусаў, дзе-ж зямля для беларускіх сялян, дзе-ж беларуская школа?

Усё гэта ляжыць нейдзе ў камісыі экспартаў у справе нацыянальных меншасьцяў. Затое пракуроры і паліцыя працуе. Міністар Мэйштовіч пераходзе у гісторыю беларускага адраджэньня. Ужо другі раз паднялі руку на Беларусаў. Яшчэ Беларусы не забыліся аб працэсе 33-х. Тады таксама ў ночы арыштавалі 57 Беларусаў і Літвіноў, грамадзян „Сярэдняе Літвы“, бяз суда і сьледзтва выкінулі 33 арыштаваных праз граніцу ў Літву. Цяпер, якраз праз 5 гадоў па загаду міністра-юрыста „ад кавалерыі“ арыштавалі масу Беларусаў і пасадзілі іх у вастрог. Усё гэта робіцца сталыпінскімі мэтодамі: „сперва успокоеніе, потом реформы“.

Гэтае „успокоеніе“ ужо далося ў знакі, ніводзен Беларус ня мае ніякай гарантыі бясьпечнасьці перад рэпрэсіямі з боку ураду. А рэформы? „Рэформы“ ужо пачаліся таксама.

У тую самую ноч, калі арыштоўвалі Беларусаў, др. Паўлюкевіч разам з некаторымі прадстаўнікамі польскага грамадзянства і амаль што ня ўсей польскай прэсы наладзілі банкет, — ліліся салодкія прамовы выключна ў польскай мове. Урад думае, што такімі банкетамі і канцэсіямі на „спэлюнку“ (дом ігры) можна разьвязаць беларускае пытаньне? Польскі ўрад, што ідзе на гэтую работу, ёсьць ведама, пажноць і вынікі яе, пэўне-ж ня вельмі пажаданыя.

Усё здаровае, шчырае, сьведамае беларускае грамадзянства цяпер, больш як калі, павінна зразумець, што прышоў час перастаць займацца рожнай „брадней“, прышоў час супольнай барацьбы з нашымі ворагамі.

Нашыя ворагі, польская і маскоўская дэфэнзыва, ужо цяпер трыумфуюць з прычыны дакананых арыштаў. Беларуская нацыянальная ідэя пахіснулася сярод часткі Беларусаў, якія паслухалі падшэптаў дэфэнзывы і распачалі барацьбу з незалежнымі беларускімі кірункамі. Рэзультаты гэтага хістаньня вельмі цяжка будзе нам перетрываць, але мы павінны і далей ня сходзіць з свайго, раней узятага, шляху-нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Толькі праз гэтае нацыянальнае адраджэньне можам дабіцца свайго ідэалу і ўсіх правоў. Але ў гэтай цяжкай нашай працы сярод нас не павінна быць здраднікаў, толькі самі, бяз помачы адных і другіх чужынцаў.

*Усіх падпішчыкаў просім прысылаць належныя за газэту грошы.*

ЭМІЛЬ ЗОЛЯ.

## ПАВОДКА.

(Пераклад з француcкага Л. М.).

(Працяг).

IV.

Я ня ведаю як доўга асталіся мы ў асхупленьні ад гэтага крызысу. Калі я агоўтарыўся, вада яшчэ павялічылася. Цяпер дапінала яна даховак. Страха была ня чымсь іншым як вузкім паўвостраўком, які вынурыўся на бязмежнай вадзяной гладзі. Направа і налева дамы паразваліваліся. Мора разцягнулася.

— Мы плывём, гутарыла Разаля трымаючыся за дахоўкі.

Усе мы напраўды ўчулі, што коцімся, бы страха рушыўшыся зьмянілася на плыт. Пасьля, калі глянулі на званіцу касьцёла нерухомую перад намі заварот зьнік. Стаялі мы на адным месцы сярод калыханьня хваляў.

Тады вада пачала атаку. Дагэтуль цеч ішла вуліцай, але разваліны дамоў загарадзілі ёй дарогу і яна кінулася ў бакі.

Атака пайшла рэгулярная. Калі які кавалак, як бэлька, падплываў да цечы,—яго падхоплівала, калыхала і біла як таранем*) у дом. Але на гэтым ня спыналася. Цеч яго ізноў адносіла, каб нанова пусьціць у дом. Біла яна па сьценах страшэнна, рэгулярна. Скора дзесяць, дванаццаць гэткіх бэляк разам, са ўсіх бакоў заатакавала нас. Вада раўла. Пена, пырскаючы, мачыла нам ногі. Чутна было як глуха стагнаў наш дом поўны вады. Ужо трашчэлі сьцены. Часамі пры найболей гвалтоўных атаках, калі калоды былі сперaду проста, думалася нам, што сьцены пашчэрбяцца і нас выкінуць праз іх дзюры ў рэчку.

Гаспард рызыкаваў на самым краю страхі. Здалеў ён затрымаць бэльку і прыцягнуць яе здаравеннымі рукамі запасніка.

— Трэба бараніцца як-небудзь, крычэў ён. Якуб ад свайго боку пяўся затрымаць на ляту доўгую жэрдку. Пётра яму памагаў. Я кляў свой век, што аставіў мяне бязсільным, як малое дзіця. Але абарона арганізавалася, дуэль—тры чалавекі проці аднэй рэчкі. Гаспард, прыдзержываючы сваю бэльку на месцы, чакаў на тыя кускі дрэва з якіх цеч рабіла тараны; затрымаў іх гвалтам амаль-што ня пры самай сьцяне. Аднак штурханула яго так ганебна, што ён паваліўся.

З боку яго Якуб і Пётра даўгімі жэрдкамі спраўляліся адганяць паленьня ад сьцяны. Блізка што гадзіну не ўсьціхала гэтая надарэмная барацьба. Урэшце, Якуб і Пётра змучаныя абселі на страсе, тады калі Гаспард пры апошнім напоры даўся вадзе зьнясьці бэльку і яна ізноў пачала шчарбіць сьцяну. Барацьба была непасільная.

Марыля і Вэроніка абнялі адна адну. Паўтаралі яны жалоснымі галасамі адзін і той самы сказ, сказ жуды, які яшчэ і цяпер без перастанку гучыць мне ў вушах.

— Я не хачу ўміраць!... Я не хачу ўміраць!

Разаля абымала іх. Старалася іх уцешыць, абнадзеіць. Але і сама ўся, бы ў трасцы, падняла твар угару і закрычэла мімаволі, не сваім голасам:

— Не хачу ўміраць!

Толькі цётка Агата нічога не гаварыла. Болі яна ўжо не малілася і ня клала на сябе крыжоў. Астаўбянеўшы вадзіла яна вачыма ўва ўсе бакі і пробавала яшчэ ўсьмяхацца, калі напатыкала мае вочы. Вада пляскала ўжо па дахоўках, ня было надзеі ні на якую помач. Усьцяж былі чутны галасы на званіцы касьцёла. Паказаліся на хвіліну дзесь далёка дзьве ляхтарні, супакой разышоўся нанова.

Жоўты абрус разаслаў сваю голую бязмернасьць. Гаспард усё яшчэ валачыўся па страсе. Потым адразу пазваў нас. Ён гаварыў:

— Сюды!... памажыце мне. Дзяржыце мяне моцна.

Схапіў ён адну жэрдку і зьмеціўся на нейкую вялізарную, чорную рэч, якой маса павольна падплывала да нашага дому. Была гэта вялізарная, зьбітая з дзябёлых дошчак страха ад паветкі, якую вада сарвала цалком і якая плыла нібы плыт. Калі гэты плыт падайшоў блізка да Гаспарда, ён затрымаў яго жэрдкай, але чуючы, што ня зможа сам удзяржаць яго на месцы клікаў нас на помач. Мы абхвацілі яго ўпол і моцна трымалі. Потым, калі абломак увайшоў у цеч, ён сам прыплыў да нашага дому, ды так гвалтоўна, што здавалася разляціцца на шчэпкі. Гаспард праворна ўскочыў на гэны плыт, што прыслаў нам выпадак. Абайшоў уздоўж і поперак, каб праканацца з яго моцы, тады калі Пётра і Якуб трымалі страху пры доме. І ён засьмяяўся і вясёла сказаў:

— Дзядуля, мы ўратаваны... Вы там, кабеты, досьць плакаць... Сапраўдная лодка. Дзяржыце! Я нават ног не замачыў. Ён панясе нас усіх, мы будзем як у сябе дома, там на ім.

Аднак захацелася яму лепш умацаваць плыт. Затрымаў ён бэлькі, што тут плавалі, прывязаў іх вяроўкай, якую Пётра выходзячы

*) Машына, якой даўней ужывалі дзеля разбіваньня крэпасных сьценаў.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Паўстаньне ў Пскове.

З Рыгі паведамляюць, што туды даходзяць весткі з пад савецкай граніцы, што нібы месяц таму назад у пскоўскай губэрніі было паўстаньне людпасьці. Паўстаньне гэтае было абтушана толькі дзякуючы таму, што ўрад згадзіўся абнізіць падаткавыя стаўкі, а нават бяручы пад увагу галіту сялянскай людпасьці, саўсім адказаўся ад падаткаў за мінулы год. Але калі потым урад не выпаўняў свайго прырачэньня і стаў рабіць арышты, паўстаньне ізноў распачалося і трывае да апошняга часу. Гэтыя весткі не праверены.

### Пагранічны польска-чэхаславацкі статут.

У ваўторак 11-га г. студзеня прыехала да Варшавы чэхаславацкая дэлегацыя на згаворы аб пагранічным польска-чэхаславацкім статуце, а таксама ў справе іншых памежных пытаньняў.

### Выступленьне з аружжам на румынскай граніцы.

З Бухарэсту пішуць, што група савецкіх салдатаў у ночы з 12 на 13 г. студзеня перайшла Днепр у аколіцы Бугас, атакуючы кулямётамі і ручнымі гранатамі пост румынскай гранічнай стражы.

У часе атакі пост асьветляна рэфлектарамі. Пасьля сільнага агню нападчыкі былі адкінуты і ўцялі ў напрамку Адэсы. З румынскіх салдатаў застаўся забіты адзін. Румынскія ўлады пачалі сьледцтва ў гэтай справе.

# НАВІНЫ.

— **Крутня ў валасной управе.** У Даўгінаўскай валасной управе выкрыта ўрадніцкая крутня.

Сьцверджана тут нязгоднасьць у шчотных кнігах ураду. Як відаць з пагалосак у касе не хватае каля 1000 зл.

Нічога дзіўнага, што ў валасных управах крадуць, бо там ня выбраныя прадстаўнікі, а вызначаныя старастам.

— **Новае распараджэньне аб польскім грамадзянстве.** Міністэрства ўнутраных справаў маніцца скора выдаць новае распараджэньне аб атрыманьні замежнікамі польскага грамадзянства. Паводле гэтага распараджэньня тыя замежнікі, якія прыехалі ў Польшч перад 12 кастрычніка 1924 г. і атказваюць варункам распараджэньня будуць магчы лёгка атрымаць польскае грамадзянства.

— **Як дастаць астаўленыя ў ССРР дакумэнты?** Каму патрэбна дастаць астаўленыя ў Расеі дакумэнты, той павінен зьвяртацца да міністэрства замежных справаў. Апошняе ўказывае колькі гэта будзе каштаваць, дае пасьведчаньне і раз'ясьняець да якога консуляту трэба зьвярнуцца з грашмі і пасьведчаньнем.

— **Справа базыліянскіх муроў.** У найвышэйшым судзе пачалася разьбірацца справа базыліянскіх муроў. Гэтую справу падняла праваслаўная кансысторыя проці дзяржаўнага скарбу. Прыгавар найвышэйшага суда будзе абвешчаны праз некалькі дзён.

— **Уніяцкую царкву аддаюць католікам.** Пасьля павароту архімандрыта Марозова і другіх асобаў да праваслаўнай царквы, парахвія касьцёла аўгустыянскага значна зьменшылася. Зьявіўся цяпер праект аддаць гэтую ўніяцкую царкву ўладам каталіцкага касьцёла.

— **Зьезд праваслаўнага духавенства.** У Варшаве засядае склінаны праз мітр. Дзяніса зьезд праваслаўнага духавенства і царкоўных старастаў.

З паседжаньняў першых двух дзён можна праканацца, што між найвышэйшай царкоўнай уладай і духавенствам з аднаго боку, а праваслаўным грамадзянствам з другога боку трывае згода, што датычыцца асноваў сабрнасьці, на якіх мае апірацца царкоўнае жыцьцё.

— **Паседжаньне літоўскага т-ва „Rytas“.** 23 дня г. студзеня ў 5 гадзіне вечарам у салі пры касьцеле св. Мікалая зьбярэцца агульнае сабраньне сяброў літоўскага асьветнага т-ва „Rytas“.

Парадак дзенны будзе гэткі:

1) Справаздачы з дзейнасьці т-ва ў годзе 1926.
2) Выбары кіраўнікоў.
3) Выбары рэвізыйнай камісіі.
4) Гутаркі аб літоўскім школьніцтве.
5) Дыскусіі і вольныя прапазыцыі.

◆◆◆

# ДА НАС ПІШУЦЬ.

### Войт — круцель.

(м. Ёды, пав. Браслаўскі.)

Наш войт, як ўжо было напісана ў „Сял. Ніве“, ёсьць пан-эндэк, да таго польскі асаднік. Яго выбралі не сяляне, як заўсёды бывае, але паны і Стараста Браслаўскі. Перад гэтым эндэкам у нас быў войт выбраны людзьмі, свой чалавек з м. Ёдаў Уладыслаў Мандрык, ён быў вельмі добрым войтам, служыў верна справядліва для людзей, нікога ня крыўдзіў, спачуваў і памагаў бедным сялянам, радзіў ува ўсім. Вось гэтакі яго паступак страшэнна не спадабаўся паном, іхным падлізьнікам, паліцыі і старасту павятовама. Дык гэтыя чарнасоценцы і пастанавілі яго „выжыць“. Пэўне, што рожнымі брудамі закідалі яго і гэтым самым выжылі. Трэба адзначыць, што Ул. Мандрык добры - сьвядомы Беларус і гэта яму пашкодзіла. Ён ніколі з сялянамі не гаварыў па польску і ня змушаў іх гаварыць. А гэты-ж пан Рудоміно, змушае ўсіх, хто прыходзе па справах у гміну гутарыць папольску, і гэтым самым змушае нашых сялян пацець гутарачы папольску. Нашаму селяніну куды лягчэй касіць ці іншую работу рабіць, чым гутарыць папольску. Наш селянін ня так спацее паўдня косячы, чым за пяць мінут гутаркі ў польскай мове.

Ды гэта ня так яшчэ важна. Але вось важна, што наш войт страшэнна шулер - круцель. У нашай гміне ў прошлае лета шмат дарог папраўлялася. Людзі ведама летам маюць шмат сваей працы, дык не хацелі ёхаць вазіць граніт на дарогі, то войт высылаў паліцыю, й тая ганяла ўсіх людзей, б'ючы і штрафуючы.

Войт-жа выразна сказаў людзям, што за працу будзе заплачана (нам нашымі грашмі, бо дарожныя падаткі спаганялі з усіх). Калі-ж паправілі дарогі і сталі дамагацца платы, то войт адказаў, што плаціць вам ніхто ня будзе, вы мусілі дарма працаваць. Дык а куды-ж пайшлі тыя падаткі дарожныя? Каму тыя грошы адданы? Дык, вось бачым, як ашуківаюць нас паны! Пан заўсёды па панску робе.

Самі ня ведаем ці зьвернем калі з вуйтоўства гэтага круцеля.

*Марвіч.*

### У якой пашане дакумэнты вучыцелёў.

(м. Дзісна).

Нейкім проста цудам удалося даведацца, што дакумэнты б. расейскіх вучыцялёў (мэтрыкі, атэстаты і інш.) знаходзяцца цяпер у Дзісьне.

Але хто-ж імі апякуецца? Сторож польскай дзяржаўнай гімназіі. Чытач кожны зьдзівіцца, што ў Польшчы такія парадкі. Як ня прыкра чуць аб гэтым але гэта факт. Вось, шмат дакумэнтаў б. расейскіх вучыцялёў знаходзяцца ў склепе ў дзяржаўнай польскай гімназіі у Дзісьне, а заведвае імі сторож. Той хто хоча атрымаць дакумэнты павінен гэтаму сторажу Ст. Марціновічу паслаць 3 зл., за якія ён высылае кожнаму яго дакумэнты. Ці ня варта было-б Куратару заінтэрэсавацца гэтай справай і перадаць дакумэнты ў архіў калі не беларускі, дык у польскі?

*Вучыцель.*

### Вось дык школа... „маральнасьці!“

Псуецца ў нашых Радашкавічах... ды не маладзёж, а... выхавальнікі. Дзякаваць яшчэ Богу, што гэтае моладзь урэшце выпуталася з пад уплыву гэтакіх выхавальнікаў. Ёсьць тутака „Macierz Szkolna“. Але сяброў дык... німа! Дзеля чаго? А проста людзі кажуць: „досіць нас ашуківаць і грошы маніць... усёроўна што з магістратам (усё бедны бурмістр!) Трэба ўжыць усялякіх „зельляў“... Вось тады залажылі кола хрысьціянскай моладзі! Пекна надта! Але трэба адкінуць мэту палёнізацыі. Дык-жа... дык жа... Неяк і гэта валіцца. Уся чыста работа „Macierzy“ ці „Koła“ ў Радашкавічах палягае... на танцах... Але і танцы нялюдзкія! У нядзельку бывала сабярэцца моладзь у „Domie Ludowym“. Гэта вечарам.

„Прэзэс“ пані Ф. ня прыдзе, а прышле свайго... хурмана (sic). Падпіўшы добра шныраюць парачкі па-за вугольлях (ня ўсе такія), танцамі пагрэюць кроў ды... біцца! Лабы трашчаць ня толька хлапцоў, але і дзявоцкія. Зараклісся нашыя дзяўчаткі хадзіць туды болей. Ды і хлопцы заракаюцца. Вечарынкі, як кажуць, можна рабіць і бяз хурманскай ласкі і на воку старшых. Найбольшая бойка была ў тую нядзельку! Шкада надта аднэй дзяўчынкі—моцна папала! Яе заступнік (нейкі вайсковы) чуць ня быў ускінуты на браму. Вынясі нас Божа ад гэтакай прыкладнай „моральнасьці“! Галасамі ўсіх дзяўчатак і хлапцоў (не завадыякаў) кажым: болей нас там ня будзе! Ня будзе!

*Шуп.*

### Польскасьць цераз школу.

(Ваўкавыскі павет).

У нядзелю вечарам, на трэці дзень праваслаўных Каляд, з увагі на тое, што дзеці, амаль што толькі праваслаўныя, вучыцель у вёсцы Лаўрыновічах, Лыскаўскае воласьці — ладзіў вечарынку (ёлку) для дзяцей.

Ладжаная, з нейкім нават „комфортам“, бо было нешта аж сем вучыцеляў суседніх школаў, гэтая „вялікая увага“ ёсьць ці не рэзультат толеранцыйнага распараджэньня дэмократычнага пана Бартля?

Дык вось, да гэтага вялікага рэзультату я меў „шчасьце“ прыгледзіцца... Прыгледзеўся я і самлела сэрца чулае, ў каторы раз пераканаўшыся: чаму гэтак моцна трымаецца Польскі Ўрад за польскую школу і чаму, наміма законаў істнуючых і абавязаўваючых яго да выкананьня, патапляе школу беларускую!...

Ды і як-жа іначай?!... Беларускія дзеткі, хоць і няўмела, хоць і з вялікімі крыўляньнямі, але-ж гаворадь папольску і пяюць польскія песьні, ды яшчэ якія?

„Польскі мы наруд, польскі люд, крулеўскі шчэп Пястовы“.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як-ні-як, а школа польская робіць свае!... Робіць свае, бо паміма нашага пасыўнага спраціву, хоць маленькімі дозамі, але-ж улівае забіваючую атруту ў беларускі малады арганізм.

Я гэта бачыў і адчуў асабіста, дык і схамянулася сэрца чулае, і ў трывозе, за родную беларускую будучыну, энэргічней забілася!

Дык і няхай трывожыцца!... Гэта дасьць сілу і мо' сталей і ўпорчывей змагацца і клікаць другіх да дзейнай і актыўнай працы, на ніве прасьветы за родную беларускую школу!

*Скарга.*

### „Metoda szykan“.

(Ваўкавыскі павет).

Тая „Metoda szykan“, аб якой гэтак шырока распісаўся „Kurjer Wileński“, можа дапоўніцца, вось яшчэ гэтакім маленькім факцікам, характэрна компромітуючым польскі ўрад у вачох беларускага грамадзянства.

На самы першы дзень праваслаўных Каляд, Паразоўскі судзьдзя вызначыў разбор судовых справаў, а дзеля гэтага, шмат каму з праваслаўных, паміма сваіх адвечных традыцыяў, прышлося сьвяткаваць гэтае важнае сьвята ў судовай салі. Тады, калі людзі ішлі ў царкву — іншыя мусілі пасьпяшацца да пана судзьдзі!... І, пэўна, з пачуцьцём горачы і роспачы і нямілага паважаньня да таго, хто гэтак безсумліўна, разадраў іх звычаі...

Пан судзьдзя ня мог ня знацъ, што ў гэты дзень прыпадаюць праваслаўныя Каляды і, калі ўчыніў гэтак, дык пэўна знарок, каб хоць, чым колечы ды кальнуць...

Але кожны ўкол змушае жывога чалавека, паміма волі, ўздрыгнуцца і, не заўсёды безкарна для таго, хто колецца... Гэтак сама і для польскасьці, калі яна колецца наўмысьня, дык Беларусы з агідным пачуцьцём і варожасьцю рэагуюць на яе выбрыкі!

Не думаю, каб гэта было карысна польскаму ўраду.

*Скарга.*

# Ліст у Рэдакцыю.

Да гэнага часу я лічыўся ў урадзе „Kółka Rolniczego“, але даведаўшыся аб істнаваньні ў Зах. Беларусі, Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і пераканаўшыся, што „Kółka Rolnicze“ ёсьць арганізацыя шляхоцкая, баронячая інтэрэсы абшарніцкія, выступаю з гэнага і ўступаю ў сябры Гуртка Ін. Гасп. і Культ.

Другім сябрам „Kółka“ радзіў-бы паступіць гэтак сама.

*Гр. Куроўскі.*

(вёска Добучын, Пружанскага пав.).

# НАШАЯ ПОШТА.

Сыльвэстру Матусэвічу. Ст. Пшыгоцкаму— праграму і інструкцыі выслалі, газэту пасылаем.

Бельскаму Алексею, Тодару Расьлевічу, Тодару Кірыку, Паўлу Беганскаму, Аляксандру Янучку, Віктару Грудзінскаму, М. Кісьляку, С. Бэртошу, І. Русаку, Ц. Бугаю, Э. Вялічко, М. Іванову, М. Казека, Ал. Какатліваму, Ів. Какатліваму, Я. Касіцкаму, І. Таранку, Ал. Таранку, Ул. Жуку, Ан. Чаплюку, Ан. Кавалёнку, А. Канюху, Александру Кецу, Чахускаму Эхіму, Ф. Ушкевічу — газэту пасылаем.

Рэдактар і выдавец Л. Міцька. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.